На прастор, на шырокі разлог
Выходзі, мой народ, грамадою...

Якуб Колас

# Народная Воля

№ 191 (773)

Пятніца, 15 кастрычніка 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 25000 руб., па падпісцы — 18000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.




## Беларусь: правительство наносит удар по независимой прессе

### Заявление Джеймса Рубина, пресс-секретаря Государственного Департамента США

Соединенные Штаты полагают, что возросшее в последнее время давление на независимую прессу в Беларуси представляет собой эскалацию усилий, направленных на удушение свободы слова в нарушение Беларусью своих обязательств в соответствии с документами ОБСЕ и международным договором о гражданских и политических правах (МДГПП).

В последние две недели белорусские власти закрыли девять оппозиционных изданий. Государственный комитет по делам печати издал постановление, аннулирующее лицензии девяти изданий якобы за непредставление документов о наличии адреса. Под действие постановления попали "Наша Свабода" (преемник газеты "Навіны") и "Кур'ер Навагрудскі", а также другие издания. Еще одной газете грозит закрытие якобы по причинам нарушения налогового законодательства. Эти действия властей продолжают кампанию давления на другие независимые газеты, неправительственные организации и политическую оппозицию, в ходе которой имели место необоснованные задержания и исчезновения людей.

Соединенные Штаты призывают Беларусь прекратить репрессии в отношении независимой прессы и строго соблюдать те обязательства, которые республика добровольно возложила на себя в результате вступления в ОБСЕ и присоединения к договору МДГПП, а также возобновить у себя те демократические преобразования, которые имеют место у стран-соседей.

## За апошні год колькасць памёршых у Беларусі перавысіла колькасць нованароджаных у паўтара раза

Паказчык смяротнасці ў Беларусі паранейшаму высокі: за апошні год колькасць памёршых перавысіла колькасць тых, хто нарадзіўся, ў 1,5 раза. Такія звесткі былі прыведзеныя падчас пасяджэння "круглага стала" на тэму "Здароўе маці — клопат беларускай дзяржавы", якое прайшло ў Доме прэсы.

Паводле інфармацыі галоўнага педыятра Міністэрства аховы здароўя Лідзіі Матуш, на фоне нязначнай тэндэнцыі да павелічэння нараджальнасці (8,8 нарадзіўшыхся на тысячу чалавек у сярэдзіне 80-х гадоў і 9,9 — у 1998-м) захаваўся высокі працэнт агульнай смяротнасці. За восем гадоў колькасць шлюбаў знізілася на 28 працэнтаў, у той час як колькасць разводаў павялічылася на 30,8 працэнта.

Расце і колькасць пазашлюбных дзяцей: калі ў 90-х гадах яна складала каля 15 працэнтаў ад усіх нарадзіўшыхся, то сёння гэты паказчык вырас да 17 працэнтаў — 15 730 чалавек. Дзіцячая смяротнасць складае 11,3 памёршых на тысячу нарадзіўшыхся, што, паводле слоў Л.Матуш, адпавядае паказчыкам еўрапейскіх краін і выводзіць Беларусь на вядучыя пазіцыі сярод краін СНД. Сярод галоўных прычын смерці дзяцей да 14 гадоў высокі працэнт займаюць траўмы, атручванні і самагубствы.

**Марына ШПОКА.**

## Уведзены нормы водпуску бензіну і дызпаліва

Брэсцкі аблвыканкам увёў нормы водпуску бензіну і дызпаліва на аўтазаправачных станцыях. Зараз для грузавых аўтамабіляў і аўтобусаў з колькасцю месцаў 23 і больш будзе адпускацца 100 літраў дызельнага паліва ці 60 літраў бензіну маркі А-76, а для легкавых аўтамабіляў і аўтобусаў з колькасцю месцаў да 23-х — толькі 20 літраў дызельнага паліва ці бензіну адначасова. Толькі па 20 літраў можна будзе заліць у бак і высокаактанавага бензіну — марак А-92 або А-95. Абмежаванні ўведзеныя з-за цяжкай сітуацыі з пастаўкамі нафтапрадуктаў і ўзнікненнем ускладненняў па забеспячэнні імі спажыўцоў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

**Стоп-кадр**



Редко встретишь так хорошо сохранившуюся ветряную мельницу, как в деревне Болота Кобринского района. Построенная в 1931 году, она до сих пор не утеряла своего первозданного вида. Возводил мельницу Григорий Николаевич Дрозд, а оберегает отцово наследие его сын, в прошлом строитель, Николай Григорьевич.

**Фото Романа КОБЯКА, БелТА.**

## Союз с Россией не принесет пользы ни экономическим субъектам, ни простым гражданам

С заявлением по поводу проекта союзного договора с Россией выступил председатель Объединенной гражданской партии Станислав Богданкевич. Он отмечает, что существующие ныне формы и механизмы экономических отношений между нашими странами предоставляют хозяйственным субъектам неплохие возможности. Политическая интеграция, создание каких-либо наднациональных политических структур не может принести никакой реальной пользы ни экономическим субъектам, ни простым гражданам, а лишь приведет к ущемлению белорусского суверенитета.

Особенно абсурдными выглядят попытки объединения на фоне тех событий, которые происходят в России, — заявляет лидер ОГП, — наш сосед находится фактически в состоянии перманентной войны и террора. Уже не в первый раз у Лукашенко проявляется какое-то нездоровое стремление объединяться именно с воюющей страной, что вызывает законную тревогу и возмущение у многих белорусов.

С другой стороны, по мнению Богданкевича, в Беларуси сегодня нет законных органов власти, которые имели бы право подписывать и ратифицировать обсуждаемый договор. Поэтому никакие международные соглашения не будут признаны ни мировым сообществом, ни будущей демократической властью Республики Беларусь.

**Сергей ИВАНОВ.**

## У арганізмах многіх жыхароў Магілёўскай вобласці павышаны ўзровень радыяцыі

На думку спецыялістаў, асноўная прычына назапашвання радыяцыі выклікана дрэннымі ўмовамі жыцця ў вёсках і агульнай беднасцю. Не маючы магчымасці ўжываць у ежу чыстыя прадукты харчавання, вясковыя жыхары ўсё часцей карыстаюцца дарамі лесу і мясам дзікіх жывёл, у тым ліку і на заражоных радыяцыяй тэрыторыях. Згодна з лабараторнымі даследаваннямі ўрачоў, утрыманне радыенуклідаў у грыбах, сабраных на тэрыторыі Чэрыкаўскага раёна, перавышае допушчальныя нормы ў дзесяткі разоў. Практычна не вызначаюцца лепшай якасцю і "хатнія" прадукты харчавання, атрыманыя ў пацярпелых ад радыяцыі раёнах, — асабліва мяса жывёлы і малако.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

## Парламентарии 44 государств аплодисментами приветствовали С.Домаша и А.Лебедько

В Берлине проходит конференция Межпарламентского Союза. Депутаты Верховного Совета Беларуси Семен Домаш и Анатолий Лебедько приняли участие в заседании комитета по правам человека и парламентариев. Были подробно обсуждены все факты нарушения прав депутатов Верховного Совета: тюремное заключение А.Климова и В.Кудинова, исчезновение В.Гончара, загадочная смерть Г.Карпенко, вынужденное нахождение в Литве С.Шарецкого, попытки выселения семьи С.Домаша из жилья, приобретенного в установленном законом порядке, незаконные аресты и задержания В.Щукина, П.Знавца, С.Богданкевича и других депутатов.

В среду, 13 октября, С.Домаш и А.Лебедько выступили на заседании группы 12+, объединяющей парламентариев из 44 стран Европы, Америки, а также Европарламента и Парламентской Ассамблеи Совета Европы. К выступлению белорусских парламентариев был проявлен огромный интерес. По итогам дискуссии было принято решение о принятии резолюции по ситуации в Беларуси. Представитель Словакии предложил проигнорировать выступление А.Малофеева на пленарном заседании, а депутат из Италии заявил о необходимости добиваться вывода из состава МПС представителей лукашенковского псевдопарламента.

## Супрацоўнікі міліцыі чарговы раз паспрабавалі ўварвацца ў офіс Аб'яднанай грамадзянскай партыі

Як стала вядома БелаПАН, у ноч з 11 на 12 кастрычніка супрацоўнікі міліцыі і спецслужбаў зрабілі спробу ўварвацца ў офіс Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) і маладзёжнай арганізацыі "Грамадзянскі форум", размешчаны на вуліцы Кірава.

Вялікая група супрацоўнікаў міліцыі з'явілася каля будынка, дзе месціцца штаб-кватэра АГП, позна ўвечары. У гэты момант у офісе знаходзіліся рэдактар газеты "Молодежный проспект" Уладзімір Міхееў, назіральнік Беларускага Хельсінкскага камітэта Дзмітрый Маркушэўскі і яшчэ некалькі чалавек. Яны адмовіліся пусціць міліцыянераў у кватэру. Каля апоўначы, убачыўшы ў вакно, што міліцэйскія машыны раз'ехаліся, усе, хто знаходзіўся ў офісе, пакінулі памяшканне, аднак іх затрымалі ў двары дома. Д.Маркушэўскага і У.Міхеева абшукалі і праверылі дакументы. Супрацоўнікі міліцыі заявілі ім, што ў гэтым раёне, размешчаным каля Адміністрацыі прэзідэнта, у такі позні час без прапіскі знаходзіцца нельга. Гутарыў з Маркушэўскім і Міхеевым падпалкоўнік Ленінскага РУУС Мінска, які не назваў свайго прозвішча.

Паводле слоў маладых людзей, двор і квартал, прылягаючы да будынка, дзе знаходзіцца офіс АГП, былі блакіраваны мноствам машын з міліцыяй і аператыўнікамі. Самі яны працягвалі знаходзіцца каля будынка прыкладна да 1.00 (унутр іх не пускалі), мяркуючы, што як толькі яны адсюль пойдуць, штаб-кватэра АГП будзе ўскрыта. У выніку супрацоўнікі міліцыі і маладыя людзі разышліся. Гэта другая па ліку спроба міліцыі пранікнуць у памяшканне АГП і "Грамадзянскага форума". Першая была прадпрынята 28 верасня. У той дзень работнікі міліцыі здолелі ўвайсці ў офіс і нават распачаць агляд кватэры. Пры гэтым яны заявілі, што шукаюць газету "Молодежный проспект". Поўнамаштабнаму вобыску перашкодзіла толькі прысутнасць у штаб-кватэры Станіслава Багданкевіча, пасля размовы з якім міліцыянеры сышлі.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

## Буйнейшаму прафсаюзнаму аб'яднанню адмоўлена ў перарэгістрацыі

Міністэрства юстыцыі адмовіла ў перарэгістрацыі прафсаюзнаму аб'яднанню — Беларускай незалежнай асацыяцыі прафсаюзаў прамысловасці (БНАПП). Сустаршынямі асацыяцыі з'яўляюцца лідэры двух буйнейшых прамысловых прафсаюзаў: работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання — Аляксандр Бухвостаў і радыёэлектроннай прамысловасці — Генадзь Фядыніч.

БНАПП было створана ў снежні 1991 года двума названымі прафсаюзамі. Нягледзячы на членства ў Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай, менавіта ў складзе БНАПП яны сталі актыўна выступаць супраць ушчамлення сацыяльна-эканамічных правоў працоўных. У 1992 годзе БНАПП першае з прафсаюзных аб'яднанняў заключыла трохбаковае тарыфнае пагадненне з урадам і арганізацыяй працадаўцаў — Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыяй. За час свайго існавання БНАПП шмат разоў праводзіла акцыі пратэсту супраць зніжэння ўзроўню жыцця насельніцтва, што выклікала незадавальненне ўлад.

Як паведаміла БелаПАН юрыст БНАПП Алена Яськова, аб тым, што асацыяцыя не прайшла перарэгістрацыю, ёй было заяўлена па тэлефоне больш за тыдзень таму без усялякіх дакладных тлумачэнняў. Дагэтуль у БНАПП не паступіла афіцыйнае тлумачэнне наконт прычын адмовы ў перарэгістрацыі, хаця, згодна з дзеючым парадкам, гэта павінна быць зроблена на працягу пяці дзён пасля рашэння Мінюста.

Праўленне БНАПП лічыць дзеянні ўлад расправай з непажаданым і моцным прафсаюзным аб'яднаннем. 13 кастрычніка кіраўніцтва асацыяцыі накіравала ліст на імя міністра юстыцыі Беларусі Генадзя Варанцова, у якім просіць разабрацца ва ўзнікшай сітуацыі. Акрамя гэтага, праўленне БНАПП мае намер звярнуцца ў судовыя органы і міжнародныя грамадскія арганізацыі.

**Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН.**



*Дмитрий БОНДАРЕНКО:*

## "Никто свободу, демократию и благосостояние нам не принесет. Только мы сами можем сделать это"

**— Дмитрий, как родилась идея "новой волны"?**

— Провозглашение Хартии'97 как раз и ставило одной из своих целей реальное объединение и координацию действий людей, которые хорошо знают друг друга, которые близки по возрасту и по своим взглядам. Так что этот процесс идет как минимум уже года два. И поэтому подготовка к акции "МАРШ СВОБОДЫ", назначенной на 17 октября, не была долгой.

Когда в Польше в 81-м было введено военное положение и тысячи лидеров "Солидарности" были отправлены за решетку, созданием подпольной "Солидарности" занималась небольшая группа молодых людей. Самому старшему было 34 года, самому младшему - 26 лет. Но они чувствовали ответственность за судьбу страны. Этих людей хватило и на подполье, и на реформы. Сегодня многие из них занимают в Польше ключевые посты. А у нас сорокалетние мужчины считаются молодыми политиками! Поэтому термин "новая волна" я считаю более правильным. Смысл "новой волны" заключается в очень простой вещи: будь ты политиком или предпринимателем, учителем или рабочим, ты должен чувствовать и брать на себя ответственность за свою судьбу, за свою семью, за свою страну. Если этого не произойдет, то ничего хорошего ожидать нельзя. Никто свободу, демократию и благосостояние нам не принесет. Только мы сами можем сделать это.

**— Ваша семерка заявила, что 17 октября в акции "МАРШ СВОБОДЫ" примут участие десятки тысяч человек. Откуда такая уверенность?**

— Просто есть такое ощущение, что многое в Беларуси решится именно этой осенью. И важно, что существует реальная договоренность с людьми, которые принимают решения в своих партиях и организациях. Такого объединения человеческих, материальных и интеллектуальных ресурсов в Беларуси не было уже давно.

И мы знаем данные социологических опросов. Так, уже больше года от 60 до 70 процентов белорусов заявляют: "В течение последнего месяца моя жизнь ухудшилась". И ожидают лишь ухудшения ситуации. Почти 25 процентов заявляют о том, что они готовы отстаивать свои права путем участия в массовых акциях — на митингах, демонстрациях, забастовках. Себя, свой желудок не обманешь. А 25 процентов — это два с половиной миллиона белорусов. Поэтому наша задача — донести до людей информацию об акции 17 октября.

**— И каковы цели акции "МАРШ СВОБОДЫ"?**

— Сегодня диктатура слаба, как никогда. И именно сегодня человек может в полной мере прочувствовать всю тяжесть ситуации: когда он не может купить необходимые продукты, когда он не может отпраздновать день рождения, поскольку нет спиртного, когда денег от зарплаты до зарплаты просто не хватает. Все это побуждает людей к действию.

В официальной заявке на проведение акции "МАРШ СВОБОДЫ" мы объявили, что она направлена на поддержку реального переговорного процесса между властью и оппозицией. Мы считаем, что та же польская модель была успешной прежде всего потому, что Польша вышла из кризиса путем прямых переговоров между властью и оппозицией.

Сегодня власть пытается сорвать переговоры. Как провокацию мы расцениваем так называемое "всенародное обсуждение" нового союзного договора с Россией. Поэтому мы призываем людей принять участие в акции с тем, чтобы поддержать идею реальных переговоров, то есть идею мирного процесса реформирования власти и при посредничестве международных структур. Это будет гарантией того, что процесс может быть цивилизованным и контролируемым.

К слову, по соцопросам, больше 50 процентов граждан республики считают, что пути выхода из кризиса надо искать как раз за столом переговоров. Если десятки тысяч людей выйдут на улицу, это, безусловно, заставит власти призадуматься. Вообще, мы говорим об осенней кампании: в сентябре прошли забастовки предпринимателей и акция профсоюзов, затем - "МАРШ СВОБОДЫ". Состоятся акции и в ноябре. Это все одна осенняя кампания.

**— Как будет проходить акция "МАРШ СВОБОДЫ"?**

— Мы приглашаем людей прийти на площадь Бангалор 17 октября в 14.00. В это время начнутся санкционированный митинг и концерт. Одним из мест сбора для организованного прохода к месту проведения митинга станет в 12.00 площадь Якуба Коласа. Отсюда по тротуарам люди пройдут до площади Бангалор. Во время обсуждения нашей заявки в горисполкоме г-н Ермошин заявил, что прохождение колонн профсоюзов 30 сентября от Тракторного завода и площади Якуба Коласа к месту проведения митинга — площади Бангалор шествием не являлось. У нас есть диктофонная запись, удостоверяющая слова минского мэра. Поэтому мы так же организованно пройдем к месту проведения митинга - от площади Якуба Коласа до пересечения улиц Богдановича и Сурганова. Мы будем действовать абсолютно законно.

**Беседовал Сергей ШАПРАН.**

## Волна Свободы

**Власть боится свободного слова и правдивой информации. Режим может закрыть независимые газеты, не допускать правду на радио и телевидение, но он не может запретить нам общаться с друзьями.**

**Если тебе не все равно, каким будет твое будущее, акция "Марш Свободы" — для тебя!**

**Если тебе не все равно, каким будет будущее твоей страны, позвони по телефону десяти своим знакомым, которым надоело жить при диктатуре. Только в Минске их более 800.000 человек. Большинство граждан не выходят на массовые акции только лишь потому, что не знают о них.**

**У каждого из нас есть минимум десять друзей и знакомых, которые разделяют наши взгляды.**

**Позвони им и сообщи о готовящейся санкционированной акции "Марш Свободы" (митинг и концерт на пл.Бангалор в 14.00).**

**Если с каждым из нас рядом будет десять друзей, мы спасем страну!**




**да МАРША СВАБОДЫ засталося 2 дні**

**пачатак санкцыянаванага мітынгу і канцэрта на пл.Бангалор у 14:00**

(праезд трал. №№ 33, 34, 37, 38, 43, 46, 53, 55, аўт. № 576 да прыпынку «пл. Бангалор»)

**Трывожна**

## Адкуль жа такая абыякавасць да лёсу сваіх дзяцей?

Час ад часу інтэграцыйныя імпульсы паміж Беларуссю і Расіяй запаўняюць старонкі шматлікіх газет, радыё і тэлевізійны эфір з новымі сіламі. Пры гэтым падаецца, што працэсу аб'яднання няма іншай альтэрнатывы, што гэта адзіны верны шлях і жаданне народаў абедзвюх краін. Аўтары газетных артыкулаў, радыё і телевізійных перадач падаюць гэтую тэму толькі станоўча, нібыта адмоўныя бакі адсутнічаюць наогул. Але ж менавіта аб адмоўным аспекце працэсу аб'яднання неабходна падумаць жыхарам Беларусі, асабліва людзям старэйшага пакалення, каб праз нейкі час не давялося галасіць усім разам. І вось аб чым.

А.Лукашэнка гаварыў аб тым, што ні адзін беларускі вайсковец не пойдзе ваяваць за межы Беларусі. У выпадку аб'яднання Беларусі і Расіі ў адну краіну ў ёй з'яўляецца агульны прэзідэнт, а значыць, агульнае заканадаўства і агульная армія. І няўжо ж нехта з тых беларускіх жыхароў, хто гарой стаіць за аб'яднанне Беларусі і Расіі ў саюзную дзяржаву, наіўна думае, што агульны прэзідэнт будзе дзяліць вайскоўцаў на беларускіх і расійскіх? І пойдуць беларускія сыны і ўнукі абараняць межы і інтарэсы ўжо агульнай аб'яднанай дзяржавы па загадзе саюзнага прэзідэнта, як гэта было зусім нядаўна ў далёкім ад Беларусі Афганістане, ад якога яшчэ доўга не высахнуць на вачах слёзы, не сціхне боль на сэрцах беларускіх маці і бацькоў. Афганская трагедыя адбывалася зусім нядаўна, гэта на памяці мільёнаў беларусаў, але ж сёння тым не менш частка беларусаў гатовая кінуць сваіх жа сыноў і ўнукаў у новую трагедыю накшталт Чэчні, Дагестана, Югаславіі, аддаючы свой голас фактычна за ўваход Беларусі ў склад Расіі. Мне шкада гэтых людзей, шкада іх кароткай памяці і абыякавасці да будучага Беларусі, да лёсу яе маладых і прыгожых юнакоў і дзяўчат.

Магутны Божа дараваў беларусам бяскроўна незалежнасць і самастойнасць, дзяржаўнасць і суверэнітэт. Аднак сёння ёсць вялікая небяспека таго, што ўсе гэтыя здабыткі могуць быць знішчаны адным росчыркам пяра з благаславення саміх жа беларусаў, частка якіх адкрыта вядзе гаворку аб дрэнным жыцці расійцаў, аб вайсковых канфліктах унутры Расіі, аб крымінальнай сітуацыі, аб невыплачванні заробкаў і пенсій, але ж упарта хочуць аб'яднацца з усім гэтым. Асабіста я не разумею супрацьлегласці такіх меркаванняў у такіх людзей і адначасова асуджаю іх за тое, што яны не бачаць наперадзе жудаснай небяспекі для саміх жа сябе ў выніку стварэння адзінай дзяржавы.

Я і мая сям'я, у якой выхаваліся два сыны, хочам жыць у краіне, назва якой Беларусь, хочам ганарыцца Беларуссю, бараніць, калі спатрэбіцца, яе межы і знайсці вечны прытулак на яе зямлі.

**Уладзімір ЯЦКЕВІЧ, жыхар г.Полацка.**

Пр. Ганны, Усціны, Андрэя, Давыда, Канстанціна, Касьяна, Купрыяна.
К. Тэрэзы, Ядвігі.

**КАСТРЫЧНІК**

**15**

**'99 ПЯТНІЦА**

| ☉ | ☽ |
|---|---|
| Усход 6.38 | Перш. квадра 17 кастрычніка |
| Захад 17.13 | Усход 13.36 |
| Даўж. дня 10.35 | Захад 21.32 |

